# СЬВЕТ ВЕЧНАЙ ПРЫГОЖАСЬЦІ

## МАСТАЦКАЯ ПРОЗА ЎЛАДЗІМЕРА ГЛЫБІННАГА

Праф. К. Тарасевіч

Паведамляючы пра выхад кнігі мастацкай прозы беларускага пісьменьніка ў Амэрыцы, Уладзімера Глыбіннага, часапіс *Божым Шляхам* пісаў, што ў апавяданьнях і аповесьцях зборніка *На Берагох Пад Сонцам* чытач усялякага ўзросту знойдзе ў ім цікавы матар'ял для чытаньня. Дзеці будуць захапляцца незвычайнымі прыгодамі жартаўніка Лявона Баровіча. Моладзь будзе са стрыманым дыханьнем чытаць пра рамантыку каханьня Ліны Бэры, маладой амэрыканкі. Аматар прыроды пройдзе з гэроем па берагох пад сонцам і сустрэнецца з цудамі навакольнай прыроды. Выхадзец з Беларусі знойдзе там выяўленьне сваёй настальгіі ў вобразах пераўвасобленай творчай выдумкай прыроды роднага краю. У гэтай творчасьці трагічныя сытуацыі гарманічна пераплятаюцца з рамантыкай ўандраваньняў. Розныя бакі разнастайнага жыцьця ў зборніку *На Берагох Пад Сонцам* знайшлі сваё адлюстраваньне скрозь прызму душы. Яны сагрэтыя гарачым сэрцам гэрояў з іх запалам, думкамі, марамі, асобнымі ўяўленьнямі.[1]

Сапраўды, Уладзімера Глыбіннага пайбольш і цікавіць тэма ўзаемаадносін сучаснага чалавека і прыроды. У век тэхнікі і спадарожнікаў наглядаецца аддаленасьць чалавека ад прыроды. Чалавек у натоўпе губляе пачуцьцё прыгожасьці прыроды, створанай для шчасьця і радасьці людзей. У апавяданьнях Уладзімера Глыбіннага ўвага чытача як бы зноў вяртаецца да непасрэднага адчуваньня ўсіх тых цудаў, хвалюючых таямніц, якія адно зялёны сьвет прыроды і здатны даць чалавеку. Назіральнасьць за зьявамі прыроды, назапашаная гадамі яднаньня з ёю, перайначваецца творчай выдумкай і збагачваецца новымі сытуацыямі і калізіямі, што на мяжы з выдуманымі, а разам з тым, такімі адчувальнымі, што яны ствараюць рэальны сьвет гэрояў. Усе яны шукаюць вечную прыгожасьць у чараўнічай прыродзе, як і ў шчырых чалавечых адносінах, знаходзяць пацьвярджэньне ў гармоніі Божага сьвету вакол нас. Таму сама прырода ў творах Уладзімера Глыбіннага заўсёды малюецца скрозь прызму сьветлай душы гэрояў-рамантыкаў. Апошнія заўсёды адштурхоўваюцца ад цёмнай сутнасьці чалавека, адхіляюць чалавечую зайздрасьць, прагнасьць, абыякавасьць да іншага, здольнасьць да ашуканства і іншыя якасьці, што зацямняюць душы многіх людзей. Гэроі Уладзімера Глыбіннага выходзяць у сьвет высакародных пачуцьцяў і думак, у сьвет яднаньня з таямніцамі вечнай красы і вялікадушнасьці. Высокая духовая культура дапамагае ім шукаць і знаходзіць праўду і адрозьніваць сапраўднага чалавека ад мешчаніна, які далей свайго вуска-эгаістычнага інтарэса нічога ня ведае і ня бачыць. Духовыя запатрабаваньні гэроя-рамантыка робяць яго ўспрымлівым да паэтычнага багацьця вакольнага сьвету. Асабіста-інтымныя адносіны да прыроды робяць апавяданьні Уладзімера Глыбіннага глыбока-лірычнымі. Гэта вызначае творчасьць Глыбіннага, як жанр *лірычнай прозы*, як найбольш адэкватнай выяўленьню душы сучасьніка. У гэтых адносінах гэтая творчасьць робіцца *споведзяй*, што асабліва ўплывае на розум і пачуцьці чытача, спрые, побач з эстэтычным выхаваньнем і асалодай, фармаваньню высокародных рысаў чалавечага характару.[2]

Гэтыя асаблівасьці творчасьці Уладзімера Глыбіннага былі адзначаныя і літаратурнай крытыкай. А. Грыцук, параўноўваючы апавяданьні Глыбіннага з „Записками Охотника" І. Тургенева, асобна адзначыў лябараторную дакладнасьць, з якою беларускі аўтар малюе ўсе адцені прыгожасьці прыроды, прасеянай праз прызму пачуцьцяў нагляднікааўтара. Крытык вылучыў насычаную глыбокім і праўдзівым пачуцьцём, блізкую сэрцу эмігранта аповесьць *Да Родных Берагоў*, поўную мастацкіх паказаў перажываньняў.[3]

Амэрыканскі крытык на балонках унівэрсытэцкага выданьня таксама блізка падыйшоў да разуменьня сутнасьці творчасьці Уладзімера Глыбіннага і ўлавіў галоўнае і істотнае ў ім: **"The stories offer a wide range of subjects, from stories about life in America to stories about tragic events in Europe during and after World War II. Some stories are infused with a deep longing for the forsaken motherland, they recreate moods and feelings typical of European emigrés who have found a new home for themselves in the land of Washington. These stories portray some of the difficulties and jous of emigrés embarking upon a new way of life, and how they deeply appreciate American freedom.**

**A love of nature, a feeling of communion with the entire world, is harmoniously combined with an acceptance of the newst trends and ideas in the present development of Science and technology. And yet the heroes of Vladimir Hlybinny collection remain in spirit romantics still dreaming about a perfect man and society."**[4]

Міжнародным прызнаньнем Уладзімера Глыбіннага, як пісьменьніка, было ўлучэньне ягонага імя ў Амэрыканскія і Эўрапэйскія энцыклапэдыі, у тым ліку ў CONTEMPORARY AUTHORS, Volume 41–44 and INTERNATIONAL AUTHORS AND WRITERS WHO'S WHO, 1976.[5] На балонках *Беларускай Думкі* №7 за 1965 год беларускі крытык Я. Ляшчына ў артыкуле пра зборнік *На Берагох Пад Сонцам*[6] дае пранікальную крытычную ацэну Глыбіннаму — мастаку слова. Будучы сам мастаком паэтычнага слова, паэтам, Я. Ляшчына вучыў мастацкае наватарства Уладзімера Глыбіннага. „Пісьменьніку Глыбіннаму, — пісаў крытык у згаданым артыкуле, — удалося знайсьці тое, што шукаў. Вечная краса ў крыку Гэнрыка Шлегеля: „Што ты робіш, чалавек, апомніся, пабойся Бога", у суме Агаты, у дабраце беларусаў, што ўратавалі Шлегеля ад сьмерці (*Сьмерць Гэнрыка Шлегеля*). Вечная краса ў крыку сома: „Хіба табе ня сорамна было гэтак хціва падыйсьці да мяне, калі я, як наівіная дзіця прыроды, цешыўся сонечнымі дарамі прыроды, а ты перапыніў маю ўцеху, і гэтак брутальна ўвагнаў мяне ў голаў гэты нясьцерпна-балючы камень? Ганьба і праклаьцце вашай чалавечай хціваьсці і падступству. Згінь" (*Сом*). Вечная краса ў крыку дзяцей дзікаабраза над сваёй матуляй, задушанай коламі аўтамашыны (*Там, дзе цьвіце бружмель*), у крыку-пратэсьце Бутрымовіча, у сьмеласьці паэта Мацея Грушынскага (аповесьць *Да родных берагоў*), у крыку-пратэсьце Пётры Іванавіча (*Цудатворчы знак*)." [7]

Такім чынам, філязофская думка пра пошукі вечнай красы ў прыродзе і ўзаемнаадносінай чалавека і Божаму твору ёсьць галоўны сьцержань усяе творчасьці Уладзімера Глыбіннага. На ўлоньні лясоў і палёў, на берагох пад сонцам пісьменьнік шукае і знаходзіць выхад з сучаснага прыгнобленьня цывілізацыяй. Дэдэктыўныя апавяданьні *Дваццаць чатыры гадзіны Боба Браўнэла* і *Зялёны атрамант* крытык разглядае, як адцяненьне гэроя іншых апавяданьняў. Дэдэктыўныя гэроі дапамагаюць глыбей зразумець і ацаніць гэрояў іншага складу: эстэтаў, аматараў прыроды, рамантыкаў, людзей высокароднай душы, лятуцельнікаў. Апошнія запаўняюць бальшыню апавяданьняў. Гэтым людзям не сядзіцца каля тэлевізараў, іх цягне да сябе акіян, лес, берагі азёраў і рэкаў. Адно там яны знаходзяць спакой і задаваленьне духовых запрабаваньняў. Іх не спакушае перспэктыва „оўветраймаў", яны чужыя пагоні за даларам. Такім зьяўляецца першнаперш суцэльны гэрой некалькіх навэляў, аб'яднаных у аповесьць *Прыгоды Лявона Баровіча*. Гэты гэрой пісьменьніка асабліва ўдаўся ўва ўсёй самабытнасьці і індывідуальных асаблівасьцях. Ягонае захапленьне паляўнічтвам і рыбнай лоўляй тлумачыцца не псыхалёгіяй забойцы жывёлаў, а жаданьнем выйсьці ў сьвет незачэпленай прыроды і там адпачыць ад нягодаў і разьвеяцца ад гарадзкога жыцьця. Крытык мае рацыю, мяркуючы, што сумніўнаці Баровіч стрэліў бы ў аленя, калі б сустрэў чацьвераногага, як ён пашкадаваў пракалоць віламі сома, які спакойна спаў на мелкай вадзе, ці кінуўся ратаваць казулю, якая з перапуду кінулася з абрыву ў ваду і пачала тануць. Баровіч умее жартаваць з дзецьмі і яны яго любяць (адно з лепшых апавяданьняў *Лявонавы жарты*). Ён жа здольны і загарэцца каханьнем да чыстай і прыгожай дзяўчыны Ліны Бэрн (*Каханьне Ліны Бэрн*), але ў часе спыняецца ў імя маральнага закону.

Адзначаючы мастацкія вартасьці прозы Уладзімера Глыбіннага, крытык піша, што „у апісаньні прыроды ён можа, як кажуць, размахнуцца сьмела, на ўсю сілу... Перш за ўсё хочацца адцеміць вельмі ўдалыя замалёўкі паляваньня „бэсаў" ды палаьненьне малявак (*Калі вазёры сьвецяцца ружовым водблёскам*, бачыны 105–106). Ёсьць сьвежыя параўнаньні: „Тлустыя чарнявыя сьпіны вусачоў, быццам галавешкі на напаленым пячным сподзе..."; „Усё дно, здавалася, пераліваецца бясконцымі бліскавіцамі"; „Звонкую, як рэха" і інш. Ёсьць удалыя сьвежыя матафары: „Раніца пачала рашуча наступаць што раз ярчэйшаю белатою і выбіваць цемру з кожнай шчыліны"; „Ён (акіян) часта падыходзіў да дарогі й звабна ўзіраўся ў яе задуменымі вачыма сваіх сініх затокаў..."

Крытык адзначыў эпіка-лірычны характар прозы Глыбіннага. У ёй недахоп драматызма, за выключэньнем поўных дынамікі дэтэктыўных апавяданьняў, папаўняецца *экспрэсыўнасьцю* стыля („Пеністы шквалы дзень і ноч грукоча аб берагавы грэбень..."), *гібкасьцю* („Тысячы жгутоў, абвітых у сваю чаргу рознымі калючымі паўзунамі, нібыта вяроўкамі, паскручвалі ўсю прастору паміж дрэвамі...", *напеўнасьцю радка:* „А тут табе воля і шчасьце пад гэтым цёплым сонцам, дзе вока міжвольна люляюць мяккія зялёныя паплавы, дываны белых рамонкаў, велічныя зялёныя горы, а вуха цешыць гоман бароў, песьня бягучае вады ручаінаў, вясёла-ажыўлены шчэбет птушак, буркаваньне дзікіх галубоў, разнастайная музыка безьлічы стракатых мятлікаў і конікаў, плёскат срыбнае рыбкі пад навіслаю над вадою вярбою, чырканьне ластаўчынага крыла па люстранай, празрыстай, як дзявочая сьляза, горнай рачулцы".

Беларускаму крытыку прышліся да смаку матывы суму па радзіме, болі ад сьведамасьці, што лёс пазбавіў дарогаў да роднага дому. „Душа твая вечна неспакойная й шукае звароту на тыя-ж бацькоўскія сьцежкі, яна сумуе на чужыне па родных загонах, марнее і смыліць думкамі аб тым, штл лёс пазбавіў нас дарогі да роднае хаты. І як-бы добра табе ня было тут, адно гняце сьведамасьць, што ты тут толькі ў гасьцёх, хай сабе і гасьцінных і ветлівых, але ўсё-ж у чужой хаце. І колькі-б ты прывыкаў да новае айчыны, а ў снох цябе будзе неадступна перасьледаваць абраз роднае хаты, дзе ты ўпяршыню ў жыцьці пазнаў смак іржанога хлеба на кляновым лісьці ды нагбом першы раз напіўся цёплага сырадою".

Асабліва хвалюючую красу крытык знайшоў у лірычных словах — абяцаньні пры першым подыху свабоды: „Вы не падвялі мяне, родныя берагі. Таму я зноў веру ў вас, у вашу здольнасьць прыўзьняць з паняверкі роднага сына. Дзякуй вам за гэта вялікае для чалавека шчасьце пазнаньня праўды. Таму я пэўны, наша спатканьне адбудзецца хутка, і яно будзе яшчэ больш радасным і абнадзейваючым. Дабранач, да сустрэчы, сястрыца-рака і вы, родныя прасторы. Дабранач, горад пакутаў і нябачаных радасьцяў. Я яшчэ прыду да вас. Прыду. Чакайце." [8]

Аднак, нягледзячы на здольнасьць крытыка вылучыць і належна ацаніць эстэтычныя вартасьці прозы Уладзімера Глыбіннага, ён ўсё-ж такі лічыў патрэбным кінуць дакор пісьменьніку, што ён нібыта не дае досыць увагі тэмам змаганьня і пратэсту. Ён заклікае аўтара зборніка *На берагох пад сонцам* менш аддавацца вечным тэмам прыроды і ўзыйсьці на галоўную магістраль вялікай літаратуры — больш цікавіцца тэмамі волі і пратэсту".[9] Пры гэтым крытык сам сабе пярэчыць. Калі ён у пачатку артыкула называе Глыбіннага ўзвышэнцам (паводля назова Беларускага літаратурнага аб'еднаньня „Ўзвышша"), то тым самым, па сутнасьці, ужо вызначалась і ўстанаўлівалася аддаленасьць гэтага пісьменьніка ад злабадзённых бягучых утылітарных задачаў дня ці бягучай палітыкі. „Узвышша" высоўвала ў якасьці сваёй мэты стварэньне менавіта вялікай літаратуры, якую пабачаць вякі і народы. У асобе сваіх лепшых прадстаўнікоў, крытыка Адама Бабарэкі, паэтаў

*(працяг на 8-й бачыне)*

# Даклад Новага Эмігранта з Беларусі ў З.Б.К.

*(пачатак у 29-м нумары)*

Бачылі мы гэтых начальнікаў толькі ў прэзыдыях па тэлевізыі, ды на трыбунах, калі праходзілі з дэманстрацыяй. Праўда, некаторых з іх кранаюць сучасныя праблемы. Напрыклад, у старшыні Вярхоўнага Суда БССР Аляксея Бондара эмігравау у Злучаныя Штаты зяць, разьвёўшыся з яго дачкай. А ўнучка Бондара хацела ехаць з бацькам, ледзьве ўстрымалі дзяўчынку.

Цяпер некалькі слоў аб нацыянальным пытаньні. Вядома, што СССР складаецца з 15 саюзных рэспублік. У гэтых рэспубліках фармальна існуюць урады, парлямэнты й г.д. Але сувэрэнітэт рэспублік гэта фікцыя. Усім кіруе Масква. Возьмем, напрыклад, прамысловасьць. Уся прамысловасьць у Савецкім Саюзе вялікадзяржаўніцкая. Ёсьць прамысловыя міністэрствы саюзныя (фэдэральныя) і рэспубліканскія. Дык вось: усе вялікія заводы падпарадкоўваюцца маскоўскім міністэрствам і па кожнай справе кіраўнікі прадпрыемстваў езьдзяць у Маскву. Такім чынам, урад Беларусі ня кіруе бальшынёю прамысловых прадпрыемстваў, у яго толькі невялікія заводы, так званая мясцовая прамысловасьць.

Вайсковыя часьці разьмешчаныя на тэрыторыі рэспублікі не падлягаюць ураду рэспублікі. Існуе сыстэма ваенных акругаў, незалежная ад адміністрацыйнага падзелу СССР. Вы мусіць ведаеце, што ў СССР абавязковая воінская павіннасьць. Калі вашаму сыну спаўняецца 18 гадоў, яго прызываюць у армію, дзе ён павінен адслужыць 2–3 гады. У Афганістане цяпер гінуць не „камуністычныя ахвотнікі", а чыесь сыны, насільна туды пасланыя. Ваенную службу салдаты праходзяць амаль заўсёды не ў сваёй рэспубліцы, а ў другой, каб ня было пад бокам сваіх нацыянальных вайсковых аддзелаў.

Між іншым, прызываюць салдат ня толькі ў армію, а таксама і ў канвойныя войскі Міністэрства Ўнутраных Спраў (МВА). Мне давялося неяк пабываць (толькі некалькі гадзін) у турме пад Менскам. У турмах ня сядзяць, а працуюць – там цэлы завод пры турме. Нас запрасілі на кансультацыю па некаторых тэхнічных пытаньнях. Дык калі мы заходзілі туды, я бачыў, што амаль усе салдаты ахраньнікі каўказцы (грузіны, армяне, горцы).

Вы, бязумоўна, ведаеце многа аб сыстэме адукацыі, аб культурным жыцьці ўБеларусі. Я трохі дапаўню. Возьмем школу. Да вайны ў Барысаве, напрыклад, была толькі адна расейская школа, рэшта былі беларускія. Пасьля вайны – наадварот. Адна ці дзьве школы беларускія, рэшта расейскія. У расейскіх школах беларуская мова вывучаецца як прадмет, гэта значыць ёй прысьвечваецца толькі некалькі гадзін у тыдзень. Але адносіны да яе горшыя чым да замежных – ангельскай ці нямецкай мовы, якія таксама вывучаюцца. Справа ў тым, што ў школах вельмі многа дзяцей, бацькі якіх прыехалі з другіх рэспублік. Гэта ваенныя, ці былыя ваенныя, і спэцыялісты прысланыя з Расеі. Дык гэтыя вучні ня вучаць беларускай мовы калі іх бацькі не жадаюць гэтага. А калі палова клясы ня вучыць беларускай мовы, дык і другая палова ня лічыць патрэбным вучыцца яе й звальняецца. А ад замежнай мовы нікога не звальняюць.

У Беларускім Палітэхнічным Інстытуце беларускай мовы няма. Выкладовая мова толькі расейская. Калі я вучыўся ў Менску, я ўсе гады жыў у інтэрнаце. Студэнты гаварылі паміж сабой пабеларуску, але ні чыстай мовай, а з русыцызмамі. Цікава, што лепш ведалі беларускую мову выхадцы з Заходняй Беларусі. Наагул лічылася, што гэтак званая інтэлігэнцыя гаворыць на расейскай мове. А беларуская – для простага народу, для сялян. Хоць на будынках бальшасьці ўстаноў ды крамаў надпісы на абедзьвюх мовах, унутры ўсё вядзецца толькі на расейскай, у тым ліку афіцыйная перапіска й дакумэнтацыя.

Праўда, многа выдаецца літаратуры на беларускай мове і мастацкай і спэцыяльнай. Абавязкава перакладзіцца на беларускую мову і ўся прапагандыстская пісаніна – ўсе даклады й выступленьні „Таварыша Леаніда Ільіча Брэжнева" і яго сяброў, пераводы твораў Леніна й „клясыкаў марксізму ленінізму". Усе кнігарні на палову забіты гэтай макулатурай, якую ніхто ня чытае.

Беларускі тэатр імя Я. Купалы ў Менску больш папулярны, на мой погляд, чым менскі расейскі тэатр імя М. Горкага. Там лепшыя артысты, лепшыя пастаноўкі. У мой час мы захапляліся такімі артыстамі, як Г. Глебаў, Б. Платонаў, Л. Ржэцкая, Л. Рахленка, У. Дзядзюшка й інш. Ставіліся творы К. Крапівы (Пяюць жаваранкі), А. Макаёнка (Выбачайце калі ласка; Лявоніха на арбіце), І. Мележа (Людзі на балоце). Таксама клясычныя творы ў перакладзе на беларускую мову – *Рамэо і Джульета* У. Шэкспіра, *Дзень цудоўных падманаў* Р. Шэрыдана, *Жывы труп* Л. Талстога й г.д.

Значна паднялі аўтарытэт беларускай песьні некаторыя эстрадныя ансамблі, перш наперш, сусьветна вядомыя „Песьняры". На іх канцэрты амаль немагчыма дастаць білеты ў Менску.

Але й тут ўсё йдзе пад надзорам і кіраўніцтвам партыі і ўраду. Галоўны напрамак усёй ідэалягічнай прапаганды – гэта камунізм і сувязь з Расеяй. У гімне БССР гаворыцца – „Мы, беларусы, з братняю Русьсю разам шукалі ў шчасьці дарог, у бітвах за волю, у бітвах за долю мы здабылі з ёю сьцяг перамог..."

Тое самае робіцца ў другіх рэспубліках. Напрыклад у рэспубліках Сярэдняй Азіі ўвялі кірылічны альфабэт замест існаваўшага калісьці арабскага, а потым лацінскага. Лацінка цяпер ужываецца толькі ў прыбалтыйскіх рэспубліках.

Вы мусіць ведаеце, што пасьля вайны ў СССР каля дзесяці народаў было перaселена са сваіх родных мейсц у Сібір і Казахстан. Бальшыні з іх потым дазволілі вярнуцца. Але да гэтага часу жывуць там куды іх выслалі Немцы (была рэспубліка Немцаў Паволжа) і Крымскія Татары.

Я не кажу ўжо пра антысэмітызм які зрабіўся фактычна афіцыяльнай палітыкай Масквы. Ёсьць установы дзе жыдоў ня прыймаюць на работу. (У Ўсходняй Беларусі й у Савецкіх пашпартах ужываецца расейскі тэрмін „яўрэй" – мы ўжываем міжнародны тэрмін „жыд". – *Рэдакцыя*). У Савецкім Саюзе няма школ, няма тэатраў, няма культурных установ, няма нават лемантара на жыдоўскай мове. У сувязі з гэтым нельга ня ўспомніць, што ў Устаўнай Грамаце 1918 году, абвесьціўшай стварэньне Беларускай Народнай Рэспублікі пацьвярджалася, што „ў рубяжах БНР усе народы маюць права на нацыянальна-пэрсанальную аўтаномію, абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў Беларусі" (Другая Ўстаўная Грамата п.6). А ў складзе першага Ўраду БНР – Народнага Сакратарыяту, між, іншым, быў калега Старшыні Ўраду й Народны Сакратар жыдоўскіх справаў – Гуман.

Вобраз жыцьця ў Беларусі й другіх рэспубліках Савецкага Саюзу будзе ня поўным, калі не напомніць аб матэрыяльных недахопах. Сярэдні заробак працоўных у СССР ледзь больш за 160 рублёў у месяц (235 амэр. дал.). Але нават калі ты маеш грошы цяжка што-небудзь купіць. Трэба стаяць у чэргах за мясам, каўбасой, маслам ды іншымі прадуктамі. Ды добра яшчэ, калі прывязуць, а то й дарма прастаіш 2–3 гадзіны. Тое самае з большменш добрым адзеньнем, абуткам, мэблямі й г.д. У нас замест дзеяслова „купіць" існаваў дзеяслоў „дастаць". Калі ёсьць знаёмы прадавец у краме, ён табе што трэба аставіць (ды й ты яму мусіш падзякаваць – ці бутэлькай, ці рублём). У той самы час ёсьць закрытыя крамы для партыйных і савецкіх чыноўнікаў высокага рангу.

У апошнім часе паявіліся спэцыяльныя крамы для вэтэранаў другой сусьветнай вайны – інвалідаў. Існуюць нормы – колькі масла, каўбасы й г.д. можа купіць інвалід у месяц. У мяне ёсьць сябра, ён прыйшоў з вайны 35 гадоў назад бяз рукі. Калі мы выяжджалі з Саюза мы рабілі на разьвітаньне вечарыну. Дык ён аддаў частку сваёй нормы для закускі. Гарэлка яшчэ была калі мы ад'яжджалі. Тыя, што прыехалі пазьней, кажуць, што з гарэлкай пачаліся перабоі.

Цяжка, жывучы толькі на чэсным заробку купіць самаход. Раней лягкавых машын у БССР было зусім мала. Апошнія гады пад кіраўніцтвам італьянскай фірмы „Фіат" і па іх дакумэнтацыі быў пабудаваны аўтазавод у Расеі. Выпуск машын рэзка ўзрос. Гэта марка „Жыгулі", якая ў экспортным выкананьні завецца „Лада". У Савецкім Саюзе яна каштуе каля 7 тысяч рублёў, а ў Канадзе здаецца каля 4 тысяч дал.

Праблемай застаецца атрымаць ад дзяржавы кватэру. Трэба чакаць многа гадоў. Трэба адзначыць, што плата за кватэру адносна невялікая. Я плаціў за кватэру з дзьвюма спальнямі каля 30 рублёў у месяц. Уласныя дамы ёсьць у аснаўным у вёсках. У гарадах калі ёсьць у каго ўласны дом – гэта засталося ад бацькоў як спадчына. Наагул, па закону дазваляецца мець прыватныя дамы плошчай ня больш 60 квадратных мэтраў.

Наагул людзі заўсёды заняты – то шукаць што зьесьці, ці што адзець ці абуць. А вечарам па радыё ці тэлевізіі слухаюць ці глядзяць чарговую перадачу „аб дасягненьнях і посьпехах Савецкага Саюзу і аб шчаслівым жыцьці савецкіх людзей".

Узьнікае пытаньне – чаму гэта ўсё магчыма, чаму людзі церпяць, чаму не паўстаюць? Папершае, гэта існаваньне вялізарнага апарату прымусу – армія, міліцыя, МВД, КГБ (Камітэт Дзяржаўнай Бясьпекі). Па тым, ёсьць частка людзей, якім, на мой погляд, гэта ўлада падабаецца. Гэта партыйныя чыноўнікі, седзячы ў цэнтральных, абласных, гарадзкіх і раённых камітэтах партыі. Далей служачыя высокага рангу ў савецкіх установах. Можна назваць некаторыя катэгорыі вучоных – сяброў Акадэміі Навук, высокапастаўленых афіцэраў і гэнэралаў, асабліва з каральных арганізацыяў (КГБ і др.). Значная бальшыня ўсіх гэтых людзей (да самага верху) нічога з сябе не прадстаўляе. Пры другой сыстэме яны ня толькі не займалі-б такія высокія становішчы, а наагул пытаньне ці маглі-б знайсьці сабе работу.

Трэба прызнаць, што значная частка насельніцтва пасыўная. Многія проста баяцца й таму маўчаць. Кажуць, лепш жыць цяжка але дома чымся ў лягеры. Адным словам, у бальшасьці мы ўсе былі як той Туляга. Ёсьць такі пэрсанаж здаецца ў К. Крапівы, у пьесе „Хто сьмяецца апошнім". („Мы ўсе Тулягі, і бацька мой быў Тулягам, ія Туляга").

Зразумела, ёсьць і змагары. Першы з іх гэта бязумоўна акадэмік Андрэй Сахараў. Ён меў усё, належаў да той эліты якой жывецца добра й пры гэтай уладзе. Ёсьць і другія – і тыя, што сядзяць, і тыя якіх выкінулі з краіны, ці абмянялі на савецкіх шпіёнаў і камуністычных лідараў – савецкіх марыянетак. Вы ведаеце іх прозьвішчы. Ёсьць і такія, можа меньшага калібру, ад якіх мы атрымоўвалі й перадавалі другім забароненыя кніжкі. Тыя, што друкуюць артыкулы для „Саміздату", хто дапамагае сем'ям палітычных вязьняў і адкрытыя праціўнікі ўлады. Ёсьць змагары й на Беларусі. Напрыклад, Міхал Кукабака. Ён адсядзеў 6 гадоў у турме псіхіатрычцы за тое, што адмовіўся ўдзельнічаць у савецкіх выбарах, знаёміў сваіх сяброў з Усеагульнай Дэклярацыяй Правоў Чалавека. У мінулым годзе яго зноў пасадзілі за напісаныя ім артыкулы. Міхал адмовіўся ад савецкага грамадзянства й хацеў выехаць у вольны сьвет. Але цяпер ён у турме ў Наваполацку. На мой погляд беларускай грамадзкасьці на Захадзе трэба больш, як гэта сказаць, шумець пра сваіх палітычных вязьняў. Увесь сьвет ведае пра Ўладзімера Букоўскага, Анатоля Шаранскага, ці былога савецкага генерала Пятра Грыгарэнка. Але пра Міхалу Кукабаку ня толькі ў сьвеце, а нават і ў вашым асяродзьдзі ня ўсе чулі.

Як паказаў прыклад Польшчы, калі ўзяцца ўсім разам – можна дабіцца немагчымага, на першы погляд, для таталітарнай дзяржавы – і права на забастоўку, і вольныя прафсаюзы й г.д.

Калі вы яшчэ ня дужа стаміліся – некалькі слоў аб эміграцыі, як мы выбраліся з Савецкага Саюзу.

Колькі гадоў таму эміграцыя значнай колькасьці людзей з СССР была немагчымай. Нават каб папасьці ў турыстычны выезд. Трэба было запоўніць спэцыяльную анкету й чакаць некалькі месяцаў, пакуль КГБ не праверыць усю тваю радаслоўную. Аднак, за апошнія гады СССР пад ціскам сусьветнай грамадзкасьці быў вымушаны пайсьці на некаторае паслабленьне ў гэтым пытаньні. Ён падпісаў Гэльсінскае пагадненьне, пачаў дазваляць некаторым групам насельніцтва пакідаць Савецкі Саюз.

Калі паявілася такая магчымасьць мы сур'ёзна задумаліся. З аднаго боку, ужо настолькі абрыдла гэтае

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# Справаздача Выдавецкага Камітэту Беларускіх Падручнікаў*

**Фонд Беларускіх Падручнікаў** быў заснаваны Старшынём Рады БНР Др. Вінцэнтам Жук-Грышкевічам пры Беларускіх Інстытутах Навукі й Мастацтва ў Канадзе й ЗША 10-га лютага 1973 г.

Вясной 1973 г. актуальнай сталася справа выданьня англамоўнага падручніка „Беларуская Мова" пад аўтарствам сп-ні Валентыны Пашкевіч і рэдакцыяй праф. Антона Адамовіча. Справай гэтай заняўся створаны, з ініцыятывы Др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, пры Каардынацыйным Камітэце Беларусаў Канады *Выдавецкі Камітэт* у складзе: старшыні ККБК Др. Барыса Рагулі, сп-ні Валентыны Пашкевіч, як аўтаркі падручніка, Др. Раісы Жук-Грышкевіч, як сябры Дзяржаўнай Канадзкай Кансультатыўнай Рады для Спраў Шматкультуралізму, Др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, як дарадчыка ў справах Беларускай мовы, сп-ні Івонкі Сурвілы, як дарадчыка ў справах мастацкага афармленьня, і сп. Паўлюка Пашкавіча, як карэктара ангельскай мовы.

### Выход Кнігі „Беларуская Мова"

1-я кніга *„Фундамэнтал Белерусіен" – „Беларуская Мова"* выйшла з друку ў сьнежні 1974 г.

Другая кніка „Беларускай Мовы" выйшла з друку ў сакавіку 1978 г.

Каля паўсотні камплетаў падручніка прадана розным бібліятэкам сьвету, асабліва ў Канадзе й ЗША. Падручнік таксама разыходзіцца па краінах Эўропы (Англіі, Нямеччыны, Бэльгіі, Галяндыі, Швэцыі, Аўстрыі, Швайцарыі, Італіі), Аўстраліі й Паўдзённай Амэрыкі.

### Фінансавая Справаздача

### ПРЫБЫТКІ

Дзяржаўная субсыдыя канадзкага ўраду – $15 000.00; Субсыдыя Рады БНР – $1 000.00; Фундацыя Крэчэўскага – $200.00; 3 Фонду Бел. Падруч. пры БІНіМ у Канадзе – $431.08; 3 Фонду Бел. Падруч. пры БІНіМ у Ню Ёрку – $3 385.83; 3 прадажы падручніка й грамадзкіх ахвяр – $5 691.38; Працэнты ў банку ў Бэры – $1 944.55; Працэнты ў банку у Лёндане, Онт. – $368.08; Прыватная пазыка – $500.00. Разам – $28 520.92.

### ВЫДАТКІ

Друк 1-й і 2-й кнігі падручніка – $27 121.84; Друк інфармацыйных лістовак – $134.83; Перасылка кніг (пошта) – $532.83; Зварот пазыкі – $500.00. Разам – $28 289.50.

На банкавым конце 8-га сакавіка 1981 г. засталося – $231.42.

* * *

Цяпер на чарзе стаіць выданьне ангельска-беларускага слоўніка, які апрацоўвае аўтарка англамоўнага падручніка „Беларуская Мова" сп-ня Валентына Пашкевіч.

*Бэры, Канада, 9 сакавіка 1981*

*Др. Барыс Рагуля*
Старшыня Выдавецкага Камітэту

*Др. Раіса Жук-Грышкевіч*
Сакратар-Скарбнік
Выдавецкага Камітэту

----

*) Справаздача падаецца ў скарачэньні. Поўны тэкст ужо быў апублікаваны.

# Даклад Новага Эміграанта

*(працяг з 7-й бачынкі)*

жыцьцё, гэтая брахня і дэмагогія ўладаў, адсутнасьць правоў і свабодаў. І надзеі на тое, што калінебудзь што-небудзь зьменіцца ня было ніякай.

З другога боку – цяжка пакінуць радзіму, родных і блізкіх людзей, сяброў. Ды, па праўдзе кажучы, быў страх перад новым жыцьцём – мовы добра ня ведаем, як там будзе ў незнаёмай краіне?

І яшчэ адно – многія, падаўшы заявы на выезд атрымоўвалі адмоўныя адказы ад улады. І тады ты быў амаль што зьнішчаны: работы ня маеш, ці маеш з малым заробкам. Правоў наагул ніякіх і г.д.

Адным словам мы вырашылі паспрабаваць і ў чэрвені 1978 году падалі заяву на дазвол выехаць з СССР. Але гэта быў толькі пачатак нашага шляху да волі. Здарылася тое, чаго мы баяліся. Мы атрымалі адмоўны адказ. Выехаць мы змаглі толькі праз паўтара года, ў сьнежані 1979 г. За гэты час мы яшчэ лепш пазналі, што такое савецкая ўлада. Мяне адразу панізілі ў службе й у заробку, замест 300 рублёў стаў атрымоўваць 150 рублёў. Дачку выгналі з работы(яна была настаўніцай). І ня было куды дзецца. На ўсе скаргі атрымоўвалі адказы, што ўсё ў парадку. Цікава, што адносіны да тых, хто рашыўся на ад'езд дваякія. Афіцыйна начальнікі называлі мяне здраднікам, перабежчыкам і г.д. Неафіцыйна многія супрацоўнікі выказвалі падтрымку й хвалілі мяне за гэты ўчынак.

Але як там ня было, мы цяпер у Канадзе. Канадзкі ўрад дае дапамогу нашай сям'і, дае нам магчымасьць падвучыцца ангельскай мовы. Мы з жонкай ходзім у George Brown College і старанна вучымся. Маем надзею ў канцы навукі знайсьці работу. Адным словам мы апынуліся ў новым свабодным жыцьці.

Яшчэ раз выражаю ўдзячнасьць кіраўніцтву Згуртаваньня Беларусаў Канады і ўсім прысутным за магчымасьць сустрэчы з вамі. Ужо тут у Канадзе мне давялося пазнаёміцца з некаторай часткай вашае творчае дзейнасьці. Перш за ўсё гэта, на мой погляд, фундамэнтальная праца Валянціны Пашкевіч „Беларуская мова", мусіць першы такі твор наагул на Захадзе. У запісах Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва адзначаны ваш удзел у сьвяткаваньні 450-х угодкаў беларускага друку, уклад у скарыніяду й г.д.

Бязумоўна важна ўсё, што вы робіце ў імя беларускага народу й яго будучыні. Жадаю вам далейшых посьпехаў у вашай шляхотнай працы.

Дзякую за ўвагу.

*– Д. Барысаўскі*

# СЬВЕТ ВЕЧНАЙ ПРЫГОЖАСЬЦІ

*(працяг з 6-й бачынкі)*

Уладзімера Дубоўкі і Язэпа Пушчы, празаікаў Кузьмы Чорнага і Лукаша Калюгі, „Узвышша" мела гэту мэту перад сабою і паводле сваіх сілаў і магчымасьцяў ажыцьцяўляла наставу на сапраўды мастацкую літаратуру і вялікую літаратуру, што ня мае нічога супольнага з бягучай палітыкай і абы-якой утылітарнай пісанінай.

Як пісьменьнік, Уладзімір Глыбінны гадаваўся на літаратуры канца 20-х гадоў, творанай прадстаўнікамі маладой беларускай літаратуры, на літаратурных узорах і эстэтычных прынцыпах, што находзілі сваё выяўленьне на балонках часапіса „Узвышша" ў гадох 1927–1929. Нездарма рэцэнзіі з дадатнай ацэнай часапіса „Ўзвышша" ўлетку 1829 г., якія У. Глыбінны друкаваў на бплонках газэты „Савецкая Беларусь", былі спатканыя ў штыкі прадстаўніком БЕЛАПП'а, І. Барашкаю, абвінавацыўшага маладога літаратара ў дробна-буржуазным ухіле.[10] Але высокім заахвочваньнем прагучала ўхваленьне тых рэцэнзіяў крытыкам Адамам Бабарэкай, які спасылаўся на іх у сваім дакладзе на гадавым з'ездзе „Ўзвышша" ў травені 1929 г. ў Доме пісьменьнікаў у Менску з прычыны трохгодздзя з дня стварэньня гэтага літаратурнага аб'еднаньня. Дарма, што Уладзімер Глыбінны па маладосьці ў тыя часы фармальна і не належаў да „Ўзвышша", а ўваходзіў у „Маладняк", аднак эстэтычныя прынцыпы ўзвышэнцкіх дзеячоў цалкам падзяляліся гэтым літаратурам і знаходзілі ў ягонай душы ўхваленьне. Думкі пра вялікую мастацкую літаратуру, пачутые тады з вуснаў сваіх узвышэнцкіх дзеячоў, сустрэчы з паэтамі і пісьменьнікамі, творцамі новай беларускай культуры, сталі вызначальнымі ў пісьменьніцкім лёсе Ўладзімера Глыбіннага. Невыпадкова ў 1930 годзе, калі зьявілась магчымасьць набыць камплект часапіса „Ўзвышша" за ўсе гады, а вартаўнік складу дазволіў браць колькі хоча, Глыбінны напоўніў тымі нумарамі гэтага часапісу аграмадны мех і да вайны, ня гледзячы на перасылед трыццатых гадоў, беражліва бярог іх на кватэры сваіх старых бацькоў у Менску. Вялікай стратай у жыцьці лічыць іх зьнішчэньне ў агні ваенных пажараў. Балазе, у Славянскім аддзеле Нк-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі маюць усе нумары гэтага часапісу. Пасьля прыезду ў ЗША ў 1951 годзе прыхільнік „Узвышша" мог зноў прылучыцца да той нявычэрпнай крыніцы паэтычнага натхненьня. Гэтак, запалыя ў маладосьці на жыватворную глебу зерні даюць свой плод і праз многія гады пасьля бязьлікіх здарэньняў жыцьця і лёсу. Галоўнае з эстэтычных поглядаў раньняй маладосьці робіцца, такім чынам, мастацкім КРЭДА творчае чыннасьці прырыяду росквіту.

Прыхільнікам прыкладной літаратуры, што патрабуюць адно тэмаў змаганьня і волі, Уладзімір Глыбінны сваёй творчасьцяй рашуча адказвае: ня меньш патрэбныя і тэмы агульна-чалавечыя, тэматыка гарманічнага зьліцьця чалавека з Божым цудам вакол нас – чар красы прыроды, цяжкасьці пошукаў чалавечага шчасьця і дасягненьня гармоніі і еднасьці з навакольным сьветам. Усё, што было стагодзьдзямі ў асяродку ўвагі мастакоў слова і фарбы, ўсё свомае людзям, не павінна быць чыжым і новаму пісьменьніку. Больш таго, тэмы змаганьня ў палітычным аспэкце носяць часам характар і зьяўляюцца актуальнымі гэтак доўга, як цягнецца самае палітычнае змаганьне. Не адмаўляючы ягонай важнасьці і аддаўшы ёй больш увагі, чымся хто іншы, у кнізе ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! яшчэ ў вайсковы час і ў многіх працах пасьляваеннага пэрыяду, прысьвечаных галоўным чынам беларускай культуры, мастацтву і тэатру, Уладзімер Глыбінны імкнецца глядзець далей вузканацыяналыных мэтаў, у пэрспэктыву будучага агульна-чалавечага аб'еднаньня. Паводле сваіх сілаў і магчымасьцяў Уладзімер Глыбінны імкнецца рабіць беларускую долю ўкладу ў скарбніцу сусьветнай культуры і сусьветнай мастацкай літаратуры. Гэта робіцца дзеля зьдзейсьненьня запавета знанага беларускага паэта Максіма Багдановіча аб неабхлднасьці прылучэньня да сусьветных агульначалавечых каштоўнасьцяў шляхам стварэньня сваіх асобных каштоўнасьцяў. Гэткай мэце адпавядаюць і многія творы Уладзімера Глыбіннага.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

-------

[1]). „Да ведама ўсіх беларусаў, аматараў прыгожага слова". *Божым Шляхам*, лістапад-сьнежань 1964, №87, бал.20, Лёндан.

[2]). „У пошуках сьвету вечнае красы". Інтэрвью з прафэсарам і пісьменьнікам Уладзімерам Глыбінным у сувязі з 35-годзьдзем літаратурнай дзейнасьці й выхадам кнігі мастацкае прозы „На берагох пад сонцам". *Бацькаўшчына*, верасень 1964, №11–12, бал.4–5, Мюнхэн, Нямеччына.

[3]). А. Грыцук. „Зь літаратурнае нівы. Уладзімер Глыбінны: *На Берагох Пад Сонцам.* Газэта беларусаў Паўночнай Амэрыкі, *Беларус*, студзень 1965, №94, Ню Ёрк, бач.4.

[4]). "Byelorussian Stories by Rensselear Professor". RENSSELEAR REVIEW OF GRADUATE STUDIES No.38, December 1964, Troy, N.Y., page 4.

[5]). CONTEMPORARY AUTHORS, a Bio-Bibliographical Guide to Current Authors And Their Works, Volume 41–44, page 559. Gale Research Company, The Book Tower, Detroit, Michigan 48226.

INTERNATIONAL AUTHORS AND WHO'S WHO, 1976, Seventh Edition, Melrose Press, Cambridge, England, page 535.

[6]). Я. Ляшчынка. *На Берагох Пад Сонцам* Ул. Глыбіннага. *Беларуская Думка* №7, 1965, бал.22–24, Саўт Рывэр, Нью-Джэрзі.

[7]). Там-жа, бал.22.

[8]). Там-жа, бал.24.

[9]). Там-жа.

[10]). „У пошуках сьвету вечнае красы". *Бацькаўшчына*, верасень 1964, №11–12, бал.5, Мюнхэн, Нямеччына.

*(заканчэньне ў наступным нумары)*